**BIELARUS**

Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION. Inc.
Subscription $ 10. 00 yearly.

**„БЕЛАРУС"** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
**Выходзіць месячна.** Рэдагуе Калегія.
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
**Выпіска зь перасылкаю — 10.00 дал. на год.**
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# "ЛІСТ ДА РАСЕЙСКАГА ПРЫЯЦЕЛЯ"

У Лёндане Згуртаваньне Беларусаў Вялікай Брытаніі выдала напрыканцы году летась брашуру на 64 бачыны — "Letter to a Russian Friend. A 'Samizdat' Publication from Soviet Byelorussia" („Ліст да расейскага Прыяцеля. Самвыдавецтва з Савецкае Беларусі"). Гэта — ліст ананімнага аўтара-Беларуса, напісаны парасейску, у вадказ на пытаньне расейскага „прыяцеля", ці не чакае беларускую мову ў век сучаснае навукова-тэхнічнае рэвалюцыі доля волскага дыялекту. Ліст напісаны ў красавіку 1977 г., а на Захад трапіў толькі летась.

Аўтар ліста, добра абазнаны ў гісторыі свайго народу й шчыры патрыёт, бароніць свой народ ад русыфікацыі, сьцьвердзіўшы ейную напорнасьць, ды выказвае пераканаьне ў здольнасьць Беларусаў вытрываць перад сучасным русыфікацыйным наступам на іх ды замацавацца ў стагодзьдзях.

Гэты цікавы твор самвыдавецкае літаратуры на Беларусі, пра наяўнасьць якое мы ведалі даўно, добра выдадзены лёнданцамі: з уступам паангельску, ангельскім перакладам усяго тэксту ліста ды паясьняльнымі зноскамі.

Кніжку можна выпісаць (цана: 1 фунт або 2,50 даляраў), пішучы на адрыс:

Ass'n of Byelorussian in Great Britain. 52 Penn Road, London N7 9RE, England.

Зь „Лістом да расейскага Прыяцеля" мы пазнаёмым нашых чытачоў у бліжэйшых нумарох „Беларуса".

# КАЛЯДНІ ФЭСТЫВАЛЬ У ЧЫКАГА

Міжнародны Калядні Фэстываль у Чыкага, які штогоду адбываецца ў Музэі Навукі й Індустрыі, пачынаецца заўсёды вельмі рана, бо ўжо адразу па сьвяце Дажынак, і трывае аж да 7 студзеня.

Гэты Фэстываль узапраўды вельмі прыгожая й папулярная імпрэза ня толькі ў шырокай дзейнасьці самога Музэю, але й цэлага гораду Чыкага й аколіцы. Дзеля гэтага дырэкцыя Музэю ўжо месяцамі раней робіць старанную падрыхтоўку, ладзячы ўрачысты інфармацыйны абед для ўдзельнікаў Фэстывалю, на якім робіць іх фатаграфіі ў малых групах, каб пазьней разаслаць іх мясцовым газэтам. Яна стараецца зацікавіць ня толькі самых удзельнікаў, але й найшырэйшыя масы жыхарства, вэрбуючы да гэтага мясцовую прэсу, радыя й тэлебачаньне. Дзеля гэтага нічога дзіўнага, што ў каляднім часе многія тысячы людзей, якія прыходзяць зьведаць Музэй, у першую чаргу прыходзяць, каб пабачыць каляднія ялінкі.

Больш за трыццаць нацыянальных ялінак, кажная каля 20-цёх футаў вышыні, знаходзіцца ў галоўнай ратуньдзе Музэю. Разнастайна прыбраныя й асьветленыя каляровымі лямпачкамі ўсе яны разам робяць ураженьне зачараванага лесу й зьяўляюцца галоўнай атракцыяй каляднага сэзону Музэю.

Вось сярод іх красавалася й беларуская калядняя ялінка. І гэта-ж была ўзапраўды прыгажуня! Яна чаравала глядача сваёй арыгінальнасьцяй, разнастайнасьцяй аздобаў, містэрнасьцяй саломкавых арнамантаў, якіх сёлета было яшчэ больш, чымся ранейшымі гадамі. Захопленыя наведвальнікі часамі ня верылі, што гэта нешта запраўднае, і хоць дотыкам хацелі як-быццам у гэтым пераканацца. Таму ня дзіва, што шмат далікатных арнамантаў было ў гэтым годзе пашкоджаных. Але мы ня крыўдзімся за гэта, бо зробім новыя й яшчэ лепшыя.

Спонсарам беларускай часткі Фэстывалю — Каардынацыйны Камітэт Беларусаў Чыкага, які так згодна й добра ўжо даўгія гады вядзе беларускую культурную працу ў нашым горадзе. Сп-ня Вера Рамук, сакратар гэтага-ж Камітэту, ёсьць арганізацыйным кіраўніком і лучнікам з дырэкцыяй Музэю. Яна ў спэцыяльнай каляднай праграме, якую арганізавала адна зь мясцовых радыястанцыяў пад ялінкамі, расказала пра Беларусь і беларускія каляднія звычаі. Яна таксама мела даўгое інтэрвю з рэпартэркай мясцовай газэты, у якім гаварыла ёй пра беларускія каляднія стравы, некалькі рэцэптаў якіх было пазьней надрукаваных у гэнай газэце.

Сп-ня Тэрэса Тарасэвіч ёсьць шырака ведамай грамадзтву Чыкага з паказваньня старога спосабу праdзеньня й апрацоўкі лёну. Адзетая ў народную вопратку, з прыгожым калаўроткам, зьяўляецца атракцыяй кажнай беларускай выстаўкі, якая штогод адбываецца ў нашым горадзе. Дык ня толькі Беларусы, але й мясцовыя школы й унівэрсытэты запрашаюць яе з калаўроткам, каб расказала цяперашняй моладзі, як калісьці ейныя бабулькі пралі ніткі, ткалі й самі шылі адзежу.

Сёлета арганізатары Фэстывалю запрасілі Тэрэсу, каб яна задэманстравала сваё мастацтва каля беларускай ялінкі. Гэта-ж нічога дзіўнага, што аднаго вечара яна захоплівала шматлікую колькасьць глядачоў ня толькі прадзеньнем доўгай і тонкай ніткі із залатога лёну й расказамі пра яго гадаваньне й апрацоўку аж да вытканьня палатна, але й апавяданьнем аб дарагой ёй Беларусі.

Дык вялікае дзякуй усім тым, што сваёй адданай працай, сваім энтузіязмам спрычыніліся да хараства беларускай ялінкі. Яны-ж тыя самыя, якіх успомніў д-р В. Рамук у сваёй леташняй справаздачы. Аднак хацеў-бы яшчэ раз падзякаваць Люні Беленіс, якая найбольш улажыла ў гэта працы й стараньняў. Яна із запраўднай умеласьцяй і цярплівасьцяй тварыла штораз новыя аздобы й хацела, каб яны былі найпрыгажэйшыя, — так, каб кажны наведвальнік, паглядзеўшы на ялінку, глянуў і на назоў краіны, якую яна рэпрэзэнтуе.

А што ён цікавіўся, дык сьветчаць пра гэта словы арганізатараў, якія, дзякуючы нам за ўдзел у Фэстывалі, гаварылі, што яны атрымалі ад наведвальнікаў шмат пахвалаў і словаў захапленьня нашай ялінкай. Яны таксама падчыркнулі, што ялінка выклікала ў глядача вялікае зацікаўленьне нашай краінай ды што літаратура, якую мы ім далі, была ім добрай дапамогай у гэтым.

**Антон Беленіс**

# ФОНД ВЫДАНЬНЯ ЮБІЛЕЙНАЙ КНІГІ ЯНКІ КУПАЛЫ

На конта Фонду Юбілейнай Кнігі Янкі Купалы ў студзені 1980 г. былі атрыманыя ад наступных ахвярадаўцаў сумы: **Эвэліна Шыманец — $11,96; Язэп Янчэўскі — $8.34; Ванда й Міхась Махначы — $25.00; А. П. — $20.00; Янка Чарнэцкі — $25.00; усяго разам у студзені 1980 г. — $90.20. Разам з папярэднімі й банкавымі працэнтамі — $3,318.70.**

Усім паважаным Ахвярадаўцам нашае шчырае беларускае дзякуй!

**Рэдакцыйная Калегія Газэты „Беларус"**

# СУСТРЭЧЫ ЗЬ Ю. ВІЦЬБІЧАМ

**(НА ПЯТЫЯ ЎГОДКІ АД ЯГОНАЕ СЬМЕРЦІ)**

*„О, Беларусь, мая шыпшына . . ."*
*— Уладзімер Дубоўка*

Гэтыя прыгожыя словы паэты вырытыя на помніку, які стаіць на магіле выдатнага беларускага пісьменьніка й таленавітага публіцыстага сьв. пам. Юркі Віцьбіча на Беларускім Магілніку ў Саўт Рывэры (штат Нью Джэрзі ў США).

Упяршыню я сустрэўся з творчасьцяй Юркі Віцьбіча ў 1943 годзе, чытаючы ягоныя мастацкія нарысы зь гісторыі Беларусі на бачынах ілюстраванага часапісу на беларускай мове, што выходзіў тады ў Рызе („Наш Шлях" — Рэд.). У гэтых нарысах Юрка Віцьбіч яскрава апісваў гэраічнае змаганьне беларускага народу супраць сваіх жорсткіх прыгнятальнікаў — апалячаных буйных фэадальных магнатаў, а пазьней супраць расейскага царскага дэспатызму й бальшавіцкай крывавай дыктатуры. У 1944 годзе ў Рызе паэта Алесь Салавей із захапленьнем гаварыў мне пра творчасьць Юркі Віцьбіча. Ён казаў, што перад вайной у БССР толькі ў творах Юркі Віцьбіча можна было знайсьці нацыянальныя элемэнты, хоць крыху чаго-небудзь на нацыянальна-беларускія тэмы.

Раньняй вясной гэнага 1944 году Алесь Салавей езьдзіў з Рыгі ў Менск на сустрэчу беларускіх паэтаў, пісьменьнікаў і артыстых з Прэзыдэнтам Беларускай Цэнтральнай Рады Радаславам Астроўскім, на якой меў прыемную для яго нагоду асабіста пазнаёміцца зь Юркам Віцьбічам. Пра гэтую сустрэчу ён мне шмат расказваў. Пасьля вайны, у Нямеччыне, я чытаў рэдагаваныя й выдаваныя Юркам Віцьбічам часапісы „Зьвіняць званы Сьвятой Сафіі", „Шыпшына", а таксама рэдагаваную ім беларускую газэту „Беларускае Слова".

Калі Юрка Віцьбіч з жонкай увосені 1949 году прыехаў з амэрыканскай зоны Нямеччыны ў ЗША (ягоная маці прыехала пазьней), дык сябра Ўправы Злучанага Беларуска-Амэрыканскага Дапамаговага Камітэту Мікалай Філістовіч, на просьбу тагачаснага старшыні гэтага Камітэту праф. Барыса Кіта, паехаў у Нью Ёрк, каб спаткаць іх у порце й прывезьці ў Саўт Рывэр. Злучаны Беларуска-Амэрыканскі Дапамаговы Камітэт памагаў тады Беларусам выэміграваць зь Нямеччыны ў ЗША. Праф. Барыс Кіт запрапанаваў інж. Пятру Орсу й ніжэйпадпісанаму вечарам гэнага дня пайсьці разам зь ім у сьціплую кватэту Філістовіча й чакаць прыезду Юркі Віцьбіча, каб зь ім сустрэцца й пазнаёміцца, што мы ахвотна й зрабілі.

Зь першага пагляду Юрка Віцьбіч, які на свае гады выглядаў молада, паказаўся мне чалавекам сьціплым, стрыманым. У гутарцы, якая вялася ў прыязнай сяброўскай атмасфэры, ён ня быў шматслоўным, але ўсё тое, што ён гаварыў, сьветчыла аб ягонай высокай інтэлігенцыі. Гэтак склалася, што Юрка Віцьбіч пасьля прыезду ў Саўт Рывэр быў пару гадоў маім блізкім суседам: ён з жонкай і сваёй старой маці жыў побач, у суседнім доме. Дык я часам вечарам, пасьля працы, заходзіў да яго пагутарыць. Аднойчы, зайшоўшы да Юркі Віцьбіча, я застаў у яго Міхася Сеньку й Лявона Шурака, вельмі актыўных у беларускай нацыянальна-грамадзкай працы маладых патрыётаў, якія пасьля цяжкае працы на хвабрыцы адбівалі на рататары сьвежы нумар „Шыпшыны". Не зважаючы на тое, што Юрка Віцьбіч пасьля прыезду ў ЗША працаваў на хлеб штодзённы на хвабрыцы, — а яму да фізычнае працы было ня прывыкаць, бо яшчэ ў свае юнацкія й маладыя гады, будучы сынам „клясавага ворага", быў змушаны абставінамі й каб здабыць сабе права на вышэйшую асьвету, цяжка працаваць у Маскве спачатку на будаўніцтве, а пазьней цэлых 10 гадоў на хэмічнай хвабрыцы, — ён не пакідаў літаратурнай дзейнасьці.

Юрка Віцьбіч зь ягонай характэрнай усьмешкай на твары сказаў мне: „Вось глядзіце, сп. Брылеўскі, як працуюць Франьцішак Скарына й Васіль Цяпінскі. Гэта я гавару бяз ніякай іроніі, бо каб не яны, дык „Шыпшына" й ня выйшла-б". Пажартаваць Юрка Віцьбіч любіў, пры тым не зважаючы на прызнаныя наагул аўтарытэты, якіх ён ня вельмі шанаваў. „Як добра, — сказаў ён аднойчы, калі мы з жонкай і сп. Міхась Сенька наведалі яго хворага ў шпіталі, — што мы на эміграцыі маем тры А — Астроўскі, Абрамчык і . . . Асіпчык, бязь іх мы прапалі-б". Гэты жарт я ад яго чуў пазьней ня раз.

Аднак, працуючы фізычна на хвабрыцы й ня маючы даволі вольнага часу й сродкаў, Юрка Віцьбіч у ЗША доўга выдаваць „Шыпшыны" ня мог. Але дзеля гэтых прычынаў ён творчай літаратурнай працы не пакінуў. Наадварот, спыніўшы выдаваньне „Шыпшыны" й адыйшоўшы цалкам ад грамадзка-палітычнай дзейнасьці й міжгруповага змаганьня, якое перайшло ў сваркі, ён увесь свой вольны час і сілы пасьвяціў на пісаньне мастацкіх краяведна-гістарычных нарысаў, апавяданьняў і фэльетонаў, якія зьмяшчаў у „Беларусе", у лёнданскім каталіцкім часапісе „Божым Шляхам", у ньюёркаўскай штодзённай газэце „Новое Русское Слово", а пазьней у „Беларускай Думцы" й іншых беларускіх часапісах.

У „Новым Рускім Слове" на працягу 25 гадоў зьмясьціў таксама вялікую колькасьць артыкулаў, зацемак і лістоў у Рэдакцыю, у якіх ён ня толькі прапагаваў беларускую нацыянальна-вызвольную ідэю, але й, будучы гарачым беларускім патрыётам, выступаў у вабарону беларускай нацыянальнай годнасьці. У сваіх бліскучых палемічных зацемках і лістох, насычаных зьедлівай гіроніяй, ён памайстроўску разьбіваў бездапаможна-прымітыўныя й таму злосныя, як шыпеньне гадзюкі, „довады" ворагаў беларушчыны — рознай масьці расейскіх вялікадзяржаўных шавіністых.

У сваім архіве я захоўваю даволі шмат выразкаў з гэтай газэты зь ягонымі артыкуламі, зацемкамі й лістамі й час ад часу з новым зацікаўленьнем і вялікай прыемнасьцяй іх перачытваю. Захоўваецца ў мяне й атрыманая ад Юркі Віцьбіча копія ягонага ліста ад 9 сакавіка 1963 году тагачаснаму галоўнаму рэдактару „НРСлова" Марку Вайнбаўму з пametкай „не да друку". У гэтым лісьце ён вельмі зьедліва высьмяяў расейскага публіцыстага Ўкраінцарэнэгата й адзінанедзялімца Тараса Навака, які зьмясьціў быў у „НР-Слове" артыкул „О самостийной Белоруссии, о Юрии Стукаличе". Свой ліст Юрка Віцьбіч закончыў наступнымі словамі: „Сп. Тарас Навак прапануе мне булаву беларускага гэтмана, што вельмі ветліва зь ягонага боку, а я ў вадказ магу запрапанаваць яму адно шапку гарадавога, які сачыў за парадкам у раёне маскоўскага Разгуляя або Зацэпы. І вельмі зьдзівіла мяне таксама цьверджаньне Г. Ракоўскага („НР Слова" ад 28 лютага 1963), што акадэмік Карскі зьяўляецца . . . заснавальнікам беларускай мовы". Беларуская мова — гэта ня штучнае эспэранта або валапюк, яе стварыў беларускі народ шмат стагодзьдзяў да нараджэньня Карскага, які зьяўляецца ,праўда, адным зь першых дасьледнікаў гэтае мовы".

У нумары „НРСлова" ад 2 сакавіка 1963 г. я прачытаў артыкул праф. Б. Адзінцова пад загалоўкам „Распаўсюджаньне асьветы ў гісторыі Расеі", у якім мяне вельмі зьдзівіў наступны ляпсус аўтара: „Аляксей Міхайлавіч запрасіў вучонага Паляка С. Полацкага вучыць сваіх дзяцей грэцкую й лацінскую мовы". Я неадкладна зайшоў да Юркі Віцьбіча, каб сказаць яму пра гэты ляпсус. Аказалася, што ён яшчэ ня чытаў гэнага артыкулу. Праз пару дзён я атрымаў ад яго ліст, у якім ён пісаў, што ня варта пісаць пра Сымона Полацкага, бо ён, хоць і Беларус, але быў прыхільнікам Масквы. Але Юрка Віцьбіч усё-ж ня ўцерпеў і праз нейкі час напісаў ліст у „НРСлова", які быў зьмешчаны пад загалоўкам „Нашто блытаць Полацак з Плоцкам". У гэтым лісьце ён ня толькі выявіў ігнаранцыю праф. Адзінцова ,але й іншага расейскага публіцыстага, Н. Осіпава, які ў сваім артыкуле „В. О. Ключэўскі пра 17-ае стагодзьдзе ў гісторыі Расеі" напісаў: „. . . Параўнайце **якога-небудзь** (падчырк. маё — У. Б.) Сымона Полацкага з пратапопам Абакумам".

Чытаючы з захапленьнем мастацкія нарысы Юркі Віцьбіча, у якіх ён вельмі вобразна апісваў слаўную далёкую мінуўшчыну беларускіх гарадоў і мястэчкаў і іхны нядаўны й сучасны стан, мне заўсёды здавалася, што амаль ува ўсіх іх ён быў сам. Навет ведаючы, што ў бальшыні мясцовасьцяў, пра якія Юрка Віцьбіч пісаў, ён ніколі ня быў, прыкладам, добра мне ведамых Залесься, Смургоняў, Крэва, Ашмяны, Браслава й іншых, гэта ўражаньне мяне не пакідала. Пра творчасьць Юркі Віцьбіча прыхільна выказваліся й некаторыя чужынцы — суседзі. Пра ягоныя мастацкія нарысы й артыкулы зь вялікай пахвалай пісаў у свой час вядомы польскі літаратар і публіцысты Міхал Паўлікоўскі на бачынах польскага лёнданскага часапісу „Вядомосьці". А заступнік галоўнага рэдактара „НРСлова" Юры Срэчынскі ў сваім нэкралёгу пра Юрку Віцьбіча напісаў: „Пісаў ён на тэмы гісторыі, палітыкі, мастацтва. Пісаў заўсёды зь вялікай эрудыцыяй і заўсёды цікава. І заўсёды па сутнасьці, завойстрана. Але галоўнае, што ў ягоных артыкулах захоплівае — гэта ягоная ўсёахвотная, палымяная любасьць да сваёй бацькаўшчыны — Беларусі й нянавісьць да захопнікаў — бальшавікоў". Тут трэба дабавіць, што Юрка Віцьбіч пісаў ці гэта пра антыбальшавіцкія паўстаньні на Беларусі, ці пра барбарскае зьнішчэньне бальшавікамі старадаўніх сьвятыняў і бясцэнных гістарычных старажытных помнікаў на беларускай зямлі зь вялікім болем у сэрцы — „не чарнілам, а крывёю".

У гутарках зы мной на літаратурныя тэмы й пра сваіх братоў — беларускіх пісьменьнікаў і паэтаў Юрка Віцьбіч ніколі ня быў іхным суровым крытыкам. Любіў паэзію Ўладзімера Дубоўкі й творчасьць некаторых іншых узвышэнцаў, да якіх сам у свой час належаў. Із сучасных беларускіх эміграцыйных паэтаў найбольш цаніў Міхася Кавыля. Заўсёды з пахвалай гаварыў пра творчасьць Хведара Ільляшэвіча, якога вельмі паважаў і заўсёды цёпла ўспамінаў як чалавека. У 3/17 нумары часапісу „Беларуская Трыбуна" зьмясьціў прыгожы артыкул-успамін пра яго пад загалоўкам „Памяці Паэты й Змагара". І ў гэтым артыкуле ён выступае як нязломны абаронца беларушчыны.

У 1943 годзе Юрка Віцьбіч, едучы цягніком праз Беларусь у групе журналістых, якая пераважна складалася з Расейцаў, горача спрачаўся зь імі. Калі цягнік спыніўся на станцыі ў Беластоку, яны запрапанавалі выйсьці на прывакзальны пляц і „спытацца ў народу", як ён сябе самога называе — Расейцамі ці Беларусамі. Першы, хто трапіўся, быў старэйшы векам селянін. Расейскі журналісты спытаўся, якой ён нацыянальнасьці, пераконваючы яго: „Вы же ведь русский? Не правда ли? Ведь здесь искони была Россия? Не так ли?" Селянін яму нічога не адказаў. І толькі тады, калі да яго зьвярнуўся Юрка Віцьбіч пабеларуску, ён сказаў: „Дык хіба-ж я Расеяц? Я, братка ты мой, з бацькоў і дзядоў Беларус. Праўда, была тут Расея, была й Польшча, а цяпер — селянін дадаў у паўголаса — Прусы. Ладне ад нас да Менску, але-ж і тут у нашай Беласточчыне была, ёсьць і будзе бяз скону Беларусь".

Апошнюю вестку ад Юркі Віцьбіча мы з жонкай атрымалі незадоўга да ягонае сьмерці, хутка пасьля таго, як мы, даведаўшыся, што ён захварэў узноў і ляжыць у шпіталі, выслалі яму разам з прат. а. Аляксандрам Надсанам, пастарам Янам Пятроўскім і ягонай спадарыняй „калектыўную" прывітальную сьвяточную калядна-наваготнюю картку з гарачым пажаданьнем хуткага выздараўленьня. У вадказ атрымалі ад яго вельмі цёплы ліст.

Улетку 1975 году мы з жонкай, наведаўшы на Беларускім Магільніку на Саўт-Рывэрскім узвышшы магілу сьв. пам. Юркі Віцьбіча, зайшлі да ягонае жонкі сп-ні Ганны Стукаліч, каб злажыць ёй нашыя шчырыя прывітаньні й пры нагодзе набыць у яе сьвежавыдадзеную Фундацыяй імя Пётры Крэчэўскага ў Нью Ёрку кнігу нарысаў ,артыкулаў і фэльетонаў ейнага мужа ў расейскай (на якой былі напісаныя) мове пад загалоўкам „Мы дойдзем!" Яна катэгарычна адмовілася ўзяць ад нас грошы за кнігу, кажучы: „Мне нябожчык муж пакінуў сьпіс асобаў, якім я павінна даць кнігу бясплатна. І ў гэтым сьпісе ёсьць Вашае прозьвішча". Хочацца верыць, у што верыў сьв. пам. Юрка Віцьбіч, што мы, Беларусы, дойдзем да вольнай і незалежнай Бацькаўшчыны.

**Уладзімер Брылеўскі**

# СУПОЛЬНАЯ КУЦЬЦЯ Ў НЬЮ ЁРКУ

**„... У небе зорачкі засьвяціліся,
Сьвяты Вечар!
Прыйшлі Мудрацы, пакланіліся,
Сьвяты Вечар!"**

У нядзелю 6 студзеня сёлета ў залі царкоўнага будынку Сабору Сьвятога Кірылы Тураўскага ў Брукліне спраўлялі парахвіяне ды прыяцелі-госьці супольную Куцьцю.

Пасьля Багаслужбы, якая складалася з 2-х частак: абедні, ды пасьля перапынку, вячэрні, падчас якіх урачыста пяяў царкоўны хор, узмоцненыя духова словамі Айца Расьціслава з пропаведзі ды таінствам мірапамазаньня, перайшлі ў залю. Зыйшліся разам, каб супольна правесьці аднэй сям'ёй Сьвяты Вечар ды аддаць паклон нованароджанаму Дзіцяці-Хрысту.

Заля выглядала пасьвяточнаму, якраз нядаўна адноўленая ды прыгожа ўдэкараваная. Вялікі супольны стол упрыгожвалі сьвечкі, агорнутыя ў галінкі зелені з чырвонымі ягадамі на іх, а на падвышэньні (сцэне), як быццам на покуці ў хаце, стаяла ікона Хрыста, агорнутая тканым у вузоры ручніком, перад якой на століку ганаровае месца заняла пасудзіна з куцьцёй на сене, пакрытым абрусом. Ня важна, што тое сена ня было гэткім пахучым, як на бацькаўшчыне, важным было захаваць традыцыю й сымболіку.

Засела за супольны вялікі стол, застаўлены рознымі поснымі стравамі, сям'я лікам каля 50-ці асобаў.

Пасьля малітвы перад бяседай прывітаў прысутных старшыня Царкоўнай Рады Аляксандар Міцкевіч ,а пазьней сп. Барыс Данілюк прачытаў ліст ад Мітрапаліта Андрэя. Глыбака запалі ў сэрцы прысутных прачытаныя словы. Для тых, што не змаглі быць з намі разам, што засталіся дома з увагі на хворых ды нядужых бацькоў ці родных і для тых-жа хворых прывяду словы зь ліста, пісаныя да Сп-ні Зінаіды Гарошкі, старшыні Сястрыцтва. Пасьля падзякі на пачатку ліста Сястрыцтву за калядні падарак былі наступныя словы:

„... Я вельмі прашу прывітаць ад майго імя ўсіх сястрычак, пажадаць ім здароўя, шчасьлівага й раднага жыцьця ў Новым 1980 Годзе. Шчыра падзякуйце ім за малітвы аб маім здароўі. А я ад сябе ў малітвах буду прасіць Бога, каб Нованароджаны Хрыстос Бог пабагаславіў усіх ды каб дапамог ім выканаць усе іхныя высокія імкненьні й захаваў іх на даўгія гады жыцьця на зямлі.

Я вельмі радуюся й дзякую Богу, што Вашая Парахвія пастаралася прыгожа аднавіць царкву-сабор, каб з чыстым сумленьнем спаткаць Нованароджанага Хрыста ў чыстым адноўленым храме, які будзе прыпамінаць усім Вам тыя яслі, дзе нарадзіўся Хрыстос Бог.

ХРЫСТОС НАРАДЗІЎСЯ —
ЯГО СЛАЎЦЕ!

**✠ Ваш Багалюбны
Мітрапаліт Андрэй"**

Настаў час прыглядзіцца да апэтычнай ежы на стале ды пачаць сьвяточную бяседу. А ў маёй галаве так даслоўна й рэальна пачалі ўкладацца тыя словы Якуба Коласа пра куцьцю, што часта прыпаміналіся пры такой нагодзе й на бацькаўшчыне. Як і тады ў мінуўшчыне, ды й цяпер шкадавала, што такога „квасу", як яго рыхтуюць у Мікалаеўшчыне — роднай вёсцы Якуба Коласа, што на Стаўпеччыне, ніколі не давялося мне спрабаваць. Мне прыпамінаецца з даўніх часоў, як мая Маці прабавала скарыстаць зь ніжэй прыведзенай рэцэпты выдатнага пісьменьніка, але й добрага кухара, Якуба Коласа, але ня зусім пасьпяхова. Так і застаецца той „квас" мараю й да сяньня:

І вось вячэра зачалася!
Спыніцца мушу я на квасе:
Ён колер меў чырванаваты;
Тут быў таран, мянёк пузаты,
Шчупак, лінок, акунь, карась,
Кялбок і ялец, плотка, язь,
Яшчэ засушаныя зь лета.
Але ня ўсё яшчэ і гэта:
Закрашан квас быў і грыбамі,
Выключна ўсё баравічкамі;
Цыбуля, перчык, ліст бабковы —
Ну, не ўясісь, каб я здаровы!
Пільнуй - цішком скажу між намі -
Каб і язык ня ўцёк часамі.
За квасам елі верашчаку,
А потым блінчыкі на маку,
А там ламанцы-прыснакі
З пшанічнай добрае мукі;
А макаў сок такі салодкі!
Ламанцы ў ім, ну, як калодкі!
Так добра макам праняліся,
У рот палōжыш — абліжыся ...

Слаўна была падрыхтаваная й нашая супольная бяседа: розныя гатункі смажанае рыбы, розныя салаткі, ламанцы із сытою з маку ды запраўдная куцьця зь вялікіх пшанічных крупаў таксама із салодкай сытой, піражкі ды іншае цеста, надзяванае, хоць і ня грыбамі, але смачна прыгатаванае.

У часе бяседы час ад часу забіралі голас прысутныя. Сп-р Аляксандар Міцкевіч прывітаў на куцьці прысутных каталікоў і выказаў задаваленьне, што далучыліся да нас і яны, каб быць з намі ў гэты Сьвяты Вечар. Зь інфармацыяй пра беларускага іншадумца Міхала Кукабаку выступіў д-р Янка Запруднік ды з прапановай выслаць яму калядні падарунак. Інфармаваў і пра тое, што маем рабіць у справе дапамогі вызваліцца яму із савецкае турмы. Сказаў і пра выдадзены на Беларусі ды перасланы ў Лёндан экзэмпляр беларускага „Самвыдаву" пад загалоўкам „Ліст расейскаму Прыяцелю" ў вабароне роднае мовы перад русыфікацыяй у падсавецкай Беларусі, што ў паняволенай бацькаўшчыне зьяўляецца зьявай высака аптымістычнай.

Усе разам пяялі калядкі паводля падрыхтаваных рэгентам царкоўнага хору Б. Данілюком тэкстаў і нотаў. Сем калядак, пачаўшы ад „Ціхая ноч, сьвятая ноч" ды скончыўшы „На гарэ кругой, там гарацъ агні, Сьвяты Вечар", а таксама калядка-неспадзеўка ў вольным перакладзе на беларускую мову амэрыканскае калядкі пра маладога рэніфэра (палярнага аленя й ягоны нос).

А як-жа могуць Беларусы абыйсьціся бязь „Люблю наш край"? ... Прыйшла свая чарга й на гэтую песьню. У цэлым быў гэта ўдалы канцэрт на высокім узроўні, дзякуючы ўдзелу ў ім маэстра Пётры Конюха ды ўдзельніцам і ўдзельнікам добрага царкоўнага хору, асабліва шчырай руплівасьці ў падрыхтоўцы матарыялу для выкананьня й дбайлівай увазе ў часе правядзеньня мастацкае часткі праграмы сп-ра Барыса Данілюка. Усе прысутныя былі моцна ўдзячныя за ініцыятыву аднавіць аднойчы пачаты абрад супольнае Куцьці ды дзякавалі жанчынам, што падрыхтавалі ежу ды й папрацавалі й у часе самой бяседы. Не ўдалося мне дакладна ўстанавіць імёнаў усіх ахвярных працаўніцаў ды памагатых мужчынаў, што спрычыніліся да ўдачы супольнае Куцьці, а таму й не магу іх тут пералічыць.

Выказваю гэтта маю асабістую сардэчную падзяку за духовую радасьць, што перажыла ў часе Сьвятога Вечару, усім жанчынам, што так выдатна выканалі тую грамадзкую нагрузку, што дабраахвотна на сябе ўсклалі нам, удзельнікам бяседы на радасьць, а Богу на Славу!

**Зінаіда Станкевіч**

# СУПОЛЬНАЯ КУЦЬЦЯ Ў АДЭЛЯЙДЗЕ

Парахвія Сьвятых Апосталаў Пятра й Паўла паводля старога стылю 6 студзеня 1980 г. спаткала праваслаўныя Каляды супольнай поснай вячэрай у сваёй прыцаркоўнай залі. Сьвята гэтае ўвайшло ўжо ў нашую традыцыю й адбываецца з году ў год.

Вечарам гэтага дня зьехалася ў Царкву шмат парахвіянаў і гасьцей, а а 7-ай гадзіне распачалася Ўрачыстая Вячэрня, якую адправіў а. Аўген. Царква была перапоўненая вернікамі, вельмі прыгожа сьпяваў царкоўны хор пад кіраўніцтвам рэгента Міхася Бурноса. Пасьля Вячэрняй Службы Божай прысутныя ў Царкве падыйшлі пад мірапамазаньне й паступова ў вясёлым настроі пераходзілі ў прыцаркоўную залю, якая была пасьвяточнаму прыгожа ўдэкараваная, а сталы былі застаўленыя смачнай поснай ежай, падрыхтаванай нашымі руплівымі жанчынамі. У куце стаяў стол, на якім ляжала сена, прывезенае з бацькаўшчыны, паверх засланае белым абрусом, а на ім стаяла куцьця (вельмі смачна прыгатаваная сп-няй Н. Яновіч), абстаўленая сьвечкамі.

Побач з куцьцёй стаяла прыгажуня ялінка, а пад ёй ляжала мноства падарункаў. Пасьля малітвы й пасьвячэньня куцьці а. Аўген пабагаславіў ежу на сталох, дзе й распачалася супольная посная вячэра. Праз паўгадзіны часу ўсе прысутныя прапяялі калядку „Новая Радасьць Стала" й тут-жа адчыніліся дзьверы й зьявіўся Дзед Мароз у поўным сваім убраньні, якога ўсе, асабліва дзеці спаткалі гучнымі воплескамі.

Дзеці з радасьцяй падходзілі да Дзеда Мароза, атрымоўвалі падарункі, размаўлялі зь ім, а потым беглі да таты й мамы, каб пахваліцца падарункамі. Было неспадзеўкай, калі дзеці сп-ва Кандрусікаў, Юльян 5 гадоў і Лара 2 гады, прадэклямавалі верш „Дзед Мароз", што выклікала ў залі гучныя воплескі. У сьвяточным настроі працягвалася куцьця, а наш царкоўны хор пад кіраўніцтвам рэгента М. Бурноса і пад акампаньямант акардыяніста Кандрусіка прапяяў калядкі: „Неба і Зямля", „Ціхая Ноч", „Зорка над Вяртэпам". Так вячэра працягвалася да позьняй ночы.

На Першы Дзень Калядаў 7 студзеня 1980 г. а. Аўген адправіў урачыстую Сьвятую Літургію. На заканчэньне Божае Службы ён павіншаваў усіх вернікаў з Раством Хрыстовым ды пажадаў вясёлых сьвятаў, здароўя й шчасьця на многія гады.

**Янка Яр**

# ПАРАХВІЯЛЬНЫ СХОД У АДЭЛЯЙДЗЕ

16 сьнежня 1979 году адбыўся гадавы справаздачна-перавыбарны агульны сход парахвіі БАПЦ Сьвятых Апосталаў Пятра й Паўла. Сход адчыніў старшыня Парахвіяльнай Рады К. Станкевіч ,а а. Аўген сказаў малітву „Ойча Наш".

У кароткай справаздачы з гадавой дзейнасьці Парахвіі старшыня К. Станкевіч пералічыў, што на працягу мінулага году было зроблена: былі адсьвяткаваныя дзьве нацыянальныя ўрачыстасьці: угодкі 25-га Сакавіка й дзень Памяці герояў. Парахвія прыняла вельмі актыўны ўдзел у падрыхтоўцы й правядзеньні Трэйцяй Сустрэчы Беларусаў Аўстраліі ў Адэляйдзе ды ў падрыхтоўцы й правядзеньні цэлага раду іншых імпрэзаў.

Наступным пытаньнем была справаздача скарбніка сп. Я. Ролсана, які адзначыў, што ў справаздачным годзе былі вялікія выдаткі, але прыбыткі значна большыя, таму Парахвія ў фінансавым пытаньні на сяньняшні дзень стаіць вельмі добра. Рэвізійная Камісія ў сваім рапарце пацьвердзіла правільнасьць справаздачы скарбніка. Агульны сход прызнаў дзейнасьць Парахвіяльнай Рады й паасобных ейных сяброў выдатнай, за што выказаў ім шчырую падзяку.

На гэтым была распушчаная старая Парахвіяльная Рада, а на наступны 1980 год сход выбраў новую Парахвіяльную Раду ў складзе: старшыня — К. Станкевіч, заступнік старшыні — Ул. Акавіты, сакратар — М. Бурнос, скарбнік — Я. Ціговіч, сябра — А. Чарнагалан, Паблік ахвіцэр — Я. Ролсан, царкоўныя старасты — П. Трысмакоў і А. Шараевіч. У склад Рэвізійнае Камісіі ўвайшлі: Я. Акавіты, П. Пачопка й Я. Палюховіч. Сход пастанавіў за выдатную ахвяру для нашай Царквы сп-ра Г. Грыцэвіча залічыць ганаровым сябрам нашае Парахвіі.

**Янка Яр**

**ЧАКАЕМ І АД ВАС АХВЯРЫ НА ВЫДАНЬНЕ
ЮБІЛЕЙНАЙ КНІГІ НА СТАГОДЗЬДЗЕ
Я Н К І К У П А Л Ы!**

# НЯ РЭГАБІЛІТАЦЫІ, А АСУДЖЭНЬНІ

Тое, пра што хочам гэтта сказаць, пачнём з канца, а не спачатку. Гэта дасьць нам лепшую магчымасьць зразумець няверагодны цынізм савецкіх рэгабілітацыяў беларускіх літаратурных каштоўнасьцяў.

Перад намі выдадзеная яшчэ летась у выдавецтве „Мастацкая Літаратура" салідная кніга на 264 бачыны друку выбраных твораў беларускага паэты й пісьменьніка пачатку бягучага стагодзьдзя Каруся Каганца, запраўднае прозьвішча якога Казімер Кастравіцкі. Укладальнік гэтае кнігі ведамы беларускі літаратуравед і гарачы патрыёт, хоць і татарскага паходжаньня, Сьцяпан Александровіч. Пяць год перад тым — у 1975 годзе, у тым-жа выдавецтве „Мастацкая Літаратура" была выдадзеная кніга выбраных твораў яшчэ аднаго беларускага паэты й пісьменьніка пачатку бягучага стагодзьдзя Альбэрта Паўловіча, укладальнікам якой і аўтарам уводнай прадмовы той-жа энтузіяст беларускай літаратуры Сьцяпан Александровіч. А ў 1976 годзе ў выдавецтве „Мастацкая Літаратура" пабачыла сьвет кніга „Выбраных твораў" Ядвігіна Ш. (запраўднае прозьвішча якога Антон Лявіцкі). Укладальнікам гэтае кнігі, аўтарам уводнай прадмовы й камэнтароў мала яшчэ ведамы літаратурны крытык І. Чыгрын.

Тры згаданыя пісьменьнікі — Карусь Каганец, Альбэрт Паўловіч і Ядвігін Ш. — у гісторыі новай беларускай літаратуры творац як быццам мост, які злучае беларускую літаратуру канца XIX і самага пачатку XX стагодзьдзя. Пры чым, Альбэрту Паўловічу выпала найлепшая доля: спасярод усіх трох ён адзін фігуруе ў даведніку 1970 году „Пісьменьнікі Савецкай Беларусі", тады калі Карусь Каганец і Ядвігін Ш. у ім адсутнічаюць.

Усе тры згаданыя пісьменьнікі ў гадох сталінскіх пагромаў былі цалкам вычыркнутыя зь гісторыі беларускае літаратуры, як самыя пракудныя буржуазныя нацыяналістыя. Калі-ж пасьля асуджэньня г. зв. культу асобы Сталіна, іхныя прозьвішчы пачалі часта паўтарацца ў гісторыі беларускае літаратуры, дык, не зважаючы на гэта, зь іхнымі творамі беларускі чытач быў пазнаёмлены зусім нядаўна. Два апавяданьні Каруся Каганца ды 11 апавяданьняў Ядвігіна Ш. былі надрукаваныя ў зборніку 1965 году „Беларуская дакастрычніцкая проза" ды 2 вершы Каруся Каганца й 10 вершаў Альбэрта Паўловіча былі зьмешчаныя ў зборніку 1967 году „Беларуская дакастрычніцкая паэзія". І толькі ў згаданых кнігах выбраных твораў Каруся Каганца, Альбэрта Паўловіча й Ядвігіна Ш. 1975, 1976 і 1979 гадоў пабачылі сьвет усе тыя творы трох пісьменьнікаў, што не зважаючы на цэнзурныя абмежаваньні, усё-ж маглі быць надрукаваныя.

Не падлягае сумлеву, што магчымасьці выданьня гэтых твораў даводзілася настойліва адваёўваць, бо рэгабілітацыя забароненых за сталіншчынай беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў, талераваная партыяй пасьля асуджэньня г. зв. культу асобы, апошнімі гадамі сталася ўжо партыйнымі органамі непажаданай. Ды адваёўваць творы гэтых пісьменьнікаў выпала на пачэсную долю беларускіх літаратуразнаўцаў, сярод якіх найвялікшыя заслугі ў гэтым адваёўваньні трэба прыпісаць Сьцяпану Александровічу. Пра гэта добра сьветчаць словы ў пачатку ягонай уводнай прадмовы да леташняй кнігі выбраных твораў Каруся Каганца, пра якога, між іншым, сказана гэткае:

**„З усімі, навет панамі й падпанкамі, гаварыў ён толькі набеларуску. Ва ўсёй яго постаці й у вабліччы адчувалася моцная сіла волі чалавека працы, з глыбокім пераконаньнем гаварыў ён любімыя словы „Беларусь трэба падымаць!"**

**„Такі быў Карусь Каганец — ведамы беларускі дзеяч, драматург, паэт, празаік, дзіцячы пісьменьнік, аўтар першых беларускіх падручнікаў, перакладчык, вучоны-моваэнаўца і фальклярыст, здольны мастак і скульптар. Псэўданім ‚Каганец' і ‚Будзімір' добра перадавалі зьмест і ідэйны напрамак разнастайнай творчай дзейнасьці таленавітага пісьменьніка, які ўсё сваё кароткае жыцьцё распальваў у народзе сьвятло асьветы, будзіў яго да сацыяльнай і нацыянальна-вызваленчай барацьбы".**

На заканчэньне сваёй уводнай прадмовы, прывёўшы ўрывак прысьвечанага Карусю Каганцу вершу Максіма Багдановіча із словамі **„І радзімаму краю служыць"**, Сьцяпан Александровіч піша:

**„Засталася ‚радзімаму краю служыць' і спадчына слаўнага сына Беларускай Зямлі Каруся Каганца. Шчырыя й простыя яго творы, упяршыню найбольш поўна сабраныя ў гэтай кнізе, раскрываюць прывабны воблік пісьменьніка-дэмакрата й актыўнага грамадзкага дзеяча, які стаяў ля калыскі беларускай літаратуры пачатку XX стагодзьдзя. Проза, паэзія, драматургія й публіцыстыка Каруся Каганца — гэта своеасаблівае пераходнае зьвяно ад творчасьці Францішка Багушэвіча да лірыкі Янкі Купалы й Якуба Коласа, яшчэ адзін доказ таго, што пасьля ‚Дудкі беларускай' літаратурна-грамадзкі прагрэс нацыянальна-вызваленчы рух на Беларусі ня прыпыніўся ўжо ні на хвілю ..."**

У кнізе выбраных твораў Каруся Каганца зьмешчаная й цікавая ягоная „Прамова", напісаная ў 1893 годзе, а ўпяршыню надрукаваная адно летась. „Прамова" пачынаецца наступнымі словамі:

**„Гэй, хлопцы, брацьця мае, а сыны Зямлі Беларускай, каторая раськінулася ад Гродны да места Смаленска й ад Прыпяці аж на другі бок ракі Дзьвіны перакінулася. Кіньце ўвакол вокам, сабярыце харашэнька думкі й скажэце, ці павінна так быць, як цяпер ёсьць? Ці справядліва гэта — усяго, што сваё, чурацца: і мовы сваёй, і звычаю свайго, і апраткі сваёй? А ведаеце тое, што мова наша калісь слаўнай была, і быў час, як спамеж другіх народаў славянскіх, слаўных людзей выходзіла даўней і цяпер выходзіць і розумам і ваеннымі заслугамі".**

Напамін у прыведзенай цытаце з „Прамовы" Каруся Каганца пра тое, што **„Зямля Беларуская ... раськінулася ад Гродны да места Смаленска"**, даў Сьцяпану Александровічу аснову з пачуцьцём нацыянальнай гордасьці сьцьвердзіць, што Карусь Каганец атаясамліваў тэрыторыю Беларусі „зь межамі Вялікага Княства Літоўскага".

Спасярод драматычных твораў Каруся Каганца неабходна прыгадаць ягоную кароткую сатырычную камэдыю „Модны шляхцюк". Цікавая яна тым, што зь ёй пераклікаецца Купалава „Паўлінка", у якой у вобразе Адольфа Быкоўскага атрымаў далейшае разьвіцьцё „тып мясцовага „шляхцюка-пустазвона", які выракаецца ўсяго свайго роднага".

Наапошку трэба прыгадаць драматычныя творы Каруся Каганца на гістарычныя тэмы, як „Старажовы курган" і „Сын Даніла". Хоць абедзьве драмы й не закончаныя ды ня вельмі сцэнічныя ў сваіх захаваных частках, аднак важныя яны тым, што ў гісторыі беларускай літаратуры становяць яны першыя драматычныя спробы на гістарычныя беларускія тэмы. Падобна як Карусь Каганец, не малыя заслугі для гісторыі беларускай літаратуры пакінулі Альбэрт Паўловіч і Ядвігін Ш.

Як інфармуе Сьцяпан Аляксандровіч, літаратурную дзейнасьць пачаў Албэрт Паўловіч яшчэ ў канцы XIX стагодзьдзя, але ў друку ўпяршыню выступіў у 1907 годзе. Найбольш плённы пэрыяд ягонае творчасьці прыпадаў на перадрэвалюцыйнае дзесяцігодзьдзе, калі ў „Нашай Ніве" зьявіліся найлепшыя ягоныя гумарыстычна-сатырычныя й лірычныя вершы. У 1910 годзе выйшаў у Вільні першы й адзіны зборнік ягоных вершаў „Снапок", а частка твораў была раськіданая ў беларускіх календарох і розных пэрыядычных выданьнях нашаніўскае пары. Ягонаму пяру належыць драма „Васількі", выдадзеная ў Вільні ў 1919 годзе, а шмат якія ягоныя творы, што ня былі друкаваныя ў пэрыёдыках, загубіліся.

Галоўная заслуга Альбэрта Паўловіча для беларускай літаратуры ў тым, што ён першы праклаў сьцежку ў беларускай дакастрычніцкай паэзіі нялёгкаму й складанаму жанру — гумару й сатыры. Як перша-праходца ў гэтым жанры, Альбэрт Паўловіч не патрапіў даць выдатных мастацкіх твораў, абмяжоўваючыся пераказваньнямі ведамых анэкдотаў і жартаў, нэў-

**(Заканчэньне на 5-ай бачыне)**

*Заслужанаму беларускаму нацыянальна-грамадзкаму й палітычнаму дзеячу ды вялікаму прыяцелю нашае газэты*

АЛЯКСАНДРУ СТАГАНОВІЧУ

*25 студзеня 1980 году споўнілася 90 год жыцьця.*

*З гэтае нагоды шчыра Яго вітаем, жадаем усякае жыцьцёвае памыснасьці, даўгога жыцьця ды далейшае плённае дзейнасьці на беларускай нацыянальнай ніве!*

*Рэдакцыйная Калегія Газэты „Беларус"*

## ПАДЗЯКА

Дзеля майго веку ня маю магчымасьці лістоўна выказаць шчырае сардэчнае падзякі Айцу Аляксандру Яноўскаму, які адслужыў малебен у царкве на мае 90-ыя ўгодкі, і ўсім Дарагім Суродзічам, якія віталі мяне лістоўна, тэлефанічна й асабіста.

Усім ім шчырае, шчырае беларускае дзякуй!

**Аляксандар Стагановіч**

## У БЕЛАРУСКАЙ ПРАВАСЛАЎНАЙ ЦАРКВЕ СЬВЯТОГА ЮР'Я У ЧЫКАГА

На мае й Царкоўнай Управы запросіны 22 студзеня сёлета прыбыў з Польшчы ерадыякан Варнава Саньчык. У нядзелю 27 студзеня ён прыняў удзел у Божай Службе й прывітаўся зь вернікамі нашае царквы. Пасьля Сьвятой Літургіі ў царкоўнай залі адбылося з гэтае нагоды прыняцьце зь беларускімі стравамі й гарачымі прамовамі дзеля прывітаньня новага свайго сьвятара й пажаданьнямі добрага здароўя й посьпехаў у ягонай дзейнасьці ў будучыні.

**Архімандрыт Язэп**

## НЯ РЭГАБІЛІТАЦЫІ, А АСУДЖЭНЬНІ

**(Заканчэньне з 4-ай бачыны)**

тральных у ідэйным і палітычным гучэньні. Тым ня менш, ягоныя гумарыстычныя й сатырычныя творы цешыліся вялікай папулярнасьцяй у тагачасных чытачоў і выклікалі ў іх пачуцьцё любасьці да свайго роднага, беларускага. Ягоныя лірычныя вершы беспасярэдня будзілі й разьвівалі патрыятычныя пачуцьці ў тагачаснага чытача.

Найвыдатнейшым беларускім паэтам і празаікам пачатку нашага стагодзьдзя быў бясспрэчна Ядвігін Ш. Яшчэ пры ягоным жыцьці выйшла ў сьвет шэсьць ягоных твораў: паэма „Дзед Завала" (1910), зборнікі апавяданьняў „Бярозка" (1912) і „Васількі" (1914), „Успаміны" зь ягоных студэнцкіх гадоў, калі ён за рэвалюцыйную дзейнасьць быў пасаджаны ў маскоўскую Бутырскую турму (1921) ды два выданьні перакладу апавяданьня Гаршына „Сыгнал". Апрача гэтага, ён-жа й аўтар першага беларускага раману „Золата", які надрукаваны ў незакончаным выглядзе ў газэце „Беларусь" у 1920 годзе, а таксама аўтар першага падарожнага беларускага нарысу „Лісты з дарогі", што друкаваўся ў 1910 годзе ў „Нашай ніве".

Вельмі высака ставіў творчасьць Ядвігіна Ш. першы й вельмі строгі беларускі прафэсыйны крытык Максім Багдановіч. Паводля характару таленту Багдановіч уважаў Ядвігіна Ш. чыстым байкапісцам. **„Няма сумлеву, што ў васобе Ядвігіна Ш.**, — сьцьвярджаў Максім Багдановіч у артыкуле „За тры гады", — **мы маем аднаго зь лепшых баечнікаў нашых часоў . . ."**

Несамавітае пытаньне рэгабілітацыяў беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў на гэтым далёка не канчаецца. Пытаньне гэтае расьцягваецца як на пісьменьнікаў дакастрычніцкага, гэтак і савецкага ўжо часу. Усе беларускія савецкія пісьменьнікі, арыштаваныя й высланыя ў 30-ых гадох, пасьля XX і XXII зьездаў партыі ў 1956 і 1961 гадох былі рэгабілітаваныя адно часткава: спосабам выданьня зьціпленькіх кніжачак іхнае творчасьці пад стандартнымі загалоўкамі „Выбранае", якія былі выдадзеныя вельмі сьціплымі тыражамі, што ўжо даўно сталіся бібліяграфічнымі рэдкасьцямі. Яшчэ горш з рэгабілітацыяй гэткага выдатнага беларускага паэты, як Алесь Гарун.

Ён падпаў пад цэнзурныя забароны з прычынаў біяграфічнага характару, як актыўны дзеяч Беларускай Народнай Рэспублікі й ня менш актыўны ўдзельнік фармаваньня беларускага нацыянальнага войска гэтае рэспублікі ў вабставінах польскае акупацыі Беларусі. Але ў літаратураведных працах і ў другім томе „Гісторыі беларускай дакастрычніцкай літаратуры" 1969 году выданьня літаратурная спадчына Алеся Гаруна ацэньваецца вельмі высака й у пазытыўным сэньсе. Трэба думаць, што беларускія літаратары, якія дамагліся выданьня выбраных твораў Каруся Кагаанца, Альбэрта Паўловіча й Ядвігіна Ш., зробяць усё магчымае, каб былі выдадзеныя выбраныя творы й Алеся Гаруна.

Найгоршая, аднак, доля спаткала выдатнага беларускага пісьменьніка Вацлава Ластоўскага й таксама з прычынаў біяграфічнага характару, як высокага дзеяча Рады й Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі. Ня толькі ўсе чыста ягоныя творы пад строгай цэнзурнай забаронай і сяньня, ня толькі пра іх няма й напаміну ў літаратураведных працах, але й само прозьвішча Вацлава Ластоўскага — Власта, як ён падпісваў свае творы, забаронена ўспамінаць і да сяньня. І толькі ў сваім 6-ым томе Беларуская Савецкая Энцыклапэдыя зьмясьціла заметку пра Вацлава Ластоўскага выключна адмоўнага характару, уважаючы найбольшым ягоным злачынствам тое, што ён **„процiпастаўляў беларускі народ рускаму, адмаўляў супольнасьць іх гістарычнага лёсу".**

А тымчасам месца й роля ў беларускай літаратуры Вацлава Ластоўскага вельмі вялікая. Максім Багдановіч у сваім аглядзе беларускай літаратуры „За тры гады (1911-1913)" даў гэткую, дарэчы, правільную й цалкам заслужаную ацэну пісьменьніку: **„Власт надрукаваў усяго 3-4 рэчы, але кожную можна ўзяць за прыклад, як трэба пісаць".**

Усваіх мастацкіх легэндах Ластоўскі з асаблівай любасьцяй зьвяртаўся да беларускай старасьвеччыны, а ягоны найбольшы твор гэтага жанру „Лябірынты" — гэта ў нашай літаратуры бадайшто адзіны выдатны ўзор навукова-фантастычнае аповесьці. Наагул-жа трэба спадзявацца, што беларускія літаратары ўсё-ж падымуць даўно насьпелае пытаньне хоць часткавае рэгабілітацыі Вацлава Ластоўскага — Власта прынамся як пісьменьніка.

Вяртаючыся да загалоўку гэтага нашага артыкулу „Ня рэгабілітацыі, а асуджэньні", узапраўды бачым, што гэта асуджэньні найлепшых твораў нашае літаратуры, інакш кажучы, вычыркваньне іх з гэтае літаратуры. Вось чаму нашым пачэсным абавязкам памагаць, як мага, беларускім літаратарам на бацькаўшчыне вяртаць роднай літаратуры найлепшых ейных пісьменьнікаў і іхныя творы.

**Ст. Станкевіч**

## КАЛЯДНАЯ ЯЛІНКА Ў НЬЮ ЁРКУ



**Сьпяваюць калядкі — зьлева направа ў першым радзе: Паўлік Рамана, Ніна Заморская, Нэнсі Захаркевіч, Таня Заморская, Коля Рамана, а з боку настаўніца вучняў д-р Ала Орса-Рамана. У другім радзе: Антон Бартуль, Вінцэнт Мерляк і Крыся Захаркевіч.**

Сёлета 13 студзеня ў выніку паразуменьня й супрацоўніцтва паміж бацькамі дзяцей ды прадстаўнікамі Акруговай Управы Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня адбылася Калядная Ялінка для дзяцей у царкоўным будынку пры Атлянтык авэню 401 у Брукліне.

Зыйшлася з гэтае нагоды значная колькасьць суродзічаў зь дзьвюх беларускіх цэркваў Нью Ёрку. Надзвычай мілае ўражаньне выклікалі дзеці — удзельніцы й удзельнікі мастацкае праграмы. Усе яны ў новенькай беларускай народнай вопратцы, прыгожа ды багата вышытай: дзяўчаты ў ваднолькавых традыцыйных спадніцах, хлопцы ў сплеценых умельцам свае справы лапцях ды падпяразаныя тканымі паясамі ў сваіх вышываных кашулях.

У залі стаяла, загадзя прыбраная, вялікая ялінка з цацкамі, гэтым разам, работы самых дзяцей.

Адчыніў сьвятказаньне старшыня Акругі БАЗА Мікола Кунцэвіч, прывітаўшы ўсіх прысутных. Праграму вяла д-р Ала Орса-Рамана, якая й падрыхтавала да яе вучняў.

Праз дзьверы звонку ўвайшлі сьпяваючы калядоўшчыкі із зоркай, прыгожа памастацку выкананай адным з прыяцеляў дзяцей, якія прайшлі аж да сцэны ды, узыйшоўшы на яе, канчалі тую калядку: „Неба й Зямля". У міжчасе паміж калядкамі забірала голас з кароткімі інфармацыямі д-р Ала. Гэтак першы раз выступіла яна з падзякаю за супрацоўніцтва бацьком ды й самым вучням за тое, што самі зрабілі цацкі на ялінку, і сп-ні Зоры Кіпель, пад наглядам ды інструкцыямі якой гэтая праца праводзілася.

Наступнай калядкаю была „Там за рэчкаю, Каляда" ды за ёй выступленьне вучня Вінцука Мерляка зь ігрой на флейце беларускіх мэлёдыяў: 1. „Беларусь, наша Маці-Краіна", 2. „Васілёчкі" й 3. „Павета". За добра выкананыя маладым музыкам мэлёдыі не шкадавалі прысутныя гучных воплескаў.

Глыбака прамаўлялі й узрушвалі калядкі, сьпяваныя дзіцячым хорам. Гэтак і наступная калядка „Сьвецяць, сьвецяць зорачкі". З даўгім вершам, урыўкам з паэмы Якуба Коласа „Новая Зямля" з разьдзелу „Каляды" вельмі ўдала выступіў дэкляматар Антон Бартуль, што добра ўзбагаціў сьвяточную праграму. І ўзноў калядка, гэтым разам адмысловая, з харэаграфічнай інтэрпрэтацыяй ейнага зьместу ў руках, ды прапяяная на два галасы, „Саўка ды Грышка", а за ёй апошняя „Учора зь вячора засьвяціла зора".

А тады прыйшоў час на кульмінацыйны пункт праграмы: першае выступленьне нованароджанае дзіцячае танцавальнае групы ў Нью Ёрку. Дык хай сабе яшчэ безназоўная група (чакаем на хрэсьбіны, паважаная Алюньця!) выканала найбольш папулярны наш традыцыйны танец „Лявоніху". Выканала на выдатна: з энтузіязмам, размахам, з прыпеўкамі асобна дзяўчат, асобна хлопцаў ды ўдалым харэаграфічным фіналам. А энтузіязм глядачоў выліўся ў запраўдную авацыю: Брава вучні!, Бравіссімо Настаўніца! Канец праграмы ня быў, аднак, канцом „Лявоніхі". На прапанову настаўніцы дзеці пачалі запрашаць да танцу сваіх бацькоў ды й іншых спасярод прысутных. Дык не аднаму з танцораў аж захапіла дух ад скокаў: запыхаліся й некаторыя бацькі, сьмяяліся дзеці.

Час прыйшоў і на Дзеда Мароза зь мехам падаркаў, што ўсё-ж дачакаўся свае пары (а быў ім юнак — сябра Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскае Моладзі Юрка Кіпель). Быў гэта добры, гаваркі, ласкавы Дзед Мароз, але ў вадным пункце баскампрамісовы: зажадаў, каб дзеці, калі хочуць атрымаць ад яго падаркі, гаварылі да яго выключна пабеларуску. Шкада, што бацькі дзяцей ня ведалі пра гэта раней, дык папрактыкавалі-б загадзя зь дзецьмі родную мову й ня трэба было-б чырванець ды канфузіцца, калі на запытаньне Дзеда Мароза: „ці гаворыш пабеларуску", быў адказ: „НО"! І не дзяцей віна ляжыць у гэтым балючым „НО", але толькі бацькоў.

Нацешыўшыся падаркамі, была зладжаная для дзяцей пачостка. Выглядала, што набліжаецца й канец. На заканчэньне выступіў сп-р Пранцiш Бартуль, бацька аднаго з удзельнікаў праграмы, з кароткай прамовай, у якой выказаў шчырую падзяку асобе, што ўклала шмат працы, арганізуючы сьвяточнае выступленьне: „Цёці Алі, бо, каб не яна, нічога падобнага, як сяньняшняе выступленьне, ня было-б". Ён выказаў думку ўсіх прысутных, за што й яму ў сваю чаргу ўсе былі ўдзячныя.

Трэба спадзявацца, што новастворaная танцавальная група будзе разьвівацца ды й пры іншых нагодах узбагаціць мастацкай праграмай сьвяткаваньні, ладжаныя ў вабодвых беларускіх асяродках пры абедзьвюх беларускіх цэрквах. Будзем таксама спадзявацца, што праграма выступленьняў вучняў зь іншых нагодаў, прыкладам, нацыянальных сьвятаў, будзе мець і адпаведную колькасьць патрыятычнага зьместу вершаў ці навет і сцэнак у роднай мове. Мастацкая дэкляматарка сп-ня Вера Бартуль напэўна не адмовіцца дапамагчы ў гэтым былым сваім вучням. Гэтае беларускае слова ў вуснах маладога пакаленьня й надае той глыбейшы сэнс усёй нашай грамадзкай працы, як і працы з самымі вучнямі, былымі вучнямі беларускае школы, што ўсё яшчэ ейны ўплыў на сабе адчуваюць.

**Зінаіда Станкевіч**

## ЗНАЙШЛІ ВАРВАРЫ ТАПОР ПАД ЛАВАЙ

**(ЗАМІЖ ФЭЛЬЕТОНУ)**

Кадэбэшніцкая газэціна „Голас Радзімы" ў № 47 за 22 лістапада летась цешыць нас весткай, што „нядаўна мы пабагацелі на яшчэ адзін выдатны помнік беларускай культуры — Магілёўскую хроніку".

І дзе-ж думаеце, людцы добрыя, знайшлі тыя дбайлівыя навуковыя краты гэны „выдатны помнік"? Можа, як тыя Жыды, знайшлі зьвіткі Старога Запавету дзесьці дбайліва схаваныя ў якой горнай пячоры? Ды не. Аказваецца, ён тут-жа проста пад рукой, у ленінградзкай „публічцы", значыцца ў публічнай бібліятэцы быў. Пра тое, як вядзецца гаспадарка ў гэнай „публічцы", скажам ніжэй.

А цяпер з вуснаў дасьледнікаў зьместу гэнай хронікі даведваемся, што прадстаўляе сабою тая хроніка. Яна ахоплівае падзеі гораду Магілева ад 1526 да 1856 году. Летапіс, пачаты купцом Трахімам Суртам, працягваў рэгент Магілеўскай гарадзкой канцылярыі Юры Трубніцкі. У хроніцы ёсьць „шырокае й дакладнае аб'ектыўнае апісаньне сацыяльна-палітычнага, гаспадарскага й культурнага жыцьця гэтага гораду . . .безьліч самых разнастайных вестак . ., апавяданьні пра паўстаньні ў Магілёве ў 1610 і 1661 гадох.., матарыялы зь гісторыі рамёстваў, архітэктуры, рэлігіі, звычаяў і быту гараджанаў Беларусі, паведамленьні пра розныя нязвычайныя здарэньні й стыхійныя зьявы . . ."

„Зь вялікай мастацкай сілаю абмаляваны ў хроніцы жудасны пажар 1708 году, калі за адзін дзень квітнеючы Магілёў ператварыўся ў руіны й попел". Гэта, як чытач пэўна прыгадвае, было ў часе так званай Паўночнай вайны й пра тое, як маскоўскі цар Пётр Першы паліў нашыя гарады, мы ведаем. А што-ж у хроніцы пра гэнага цара-разбуральніка? „Складаным, супярэчлівым паўстае перад чытачом Пётр Першы. Ён мудры дзяржаўны дзеяч і адначасна цар-самадур, які „ніколі ня быў стрыманым ў гневе".

Вось яно. У нас няма сумлеваў, што маглі магіляўчане думаць пра цара, якога „нястрыманы гнеў", пэўне-ж, пазналі на сваёй скуры. Дык каб яму сталася дзясятая доля таго, што яму сулілі зьняможаныя й пакораныя продкі нашыя!

Ведама-ж, знойдзеная хроніка зьяўляецца цікавым гістарычным дакумэнтам нашае мінуўшчыны. Кадэбэшніцкая газэціна прыгадвае, што яна паведамляла пра знаходку ў ленінградзкай „публічцы" дзевяць гадоў таму. Спатрэбілася, відаць, ладня часу, пакуль „родная партыя" дазволіла гэты цікавы дакумэнт дасьледаваць, і ён, згодна „Голасу Радзімы", „неўзабаве будзе апублікаваны ў Маскве ў чарговым, 35 томе „Поўнага збору рускіх летапісаў".

А як-жа вядзецца гаспадарка ў гэнай „публічцы", дзе Магілеўскую хроніку „знайшлі"? Пра гэта даведваемся ад К. Усьпенскага (псэўдонім Касьцінскі), што ад леташняга году жыве ў Задзіночаных Штатах Амэрыкі. Падчас мінулай вайны палкоўнік, ён, як чалавек, што ведаў некалькі моваў, пасьля дэмабілізацыі працаваў нейкі час пры разборцы „трафейнага фонду" (зрабаваных па Эўропе кнігаў) „публічкі" й пра розныя цікавыя дэталі даведваемся зь ягонага артыкулу „Ёган Гутэнбэрг і іншыя" („Кантынэнт", № 21). Загадчык аддзелу рэдкае кнігі Люблінскі раз папразіў Усьпенскага памагчы яму схадзіць „уніз", значыцца, у склеп па „сякія-такія кнігі".

„Праз цэлы шэраг заляў і сховішчаў, — піша Усьпенскі, — па сырых і брудных сходах апусьціліся мы ў склеп і апынуліся ў цёмным, ужо цалкам сырым памешканьні, у якім на драўляных полках зь левага й правага бакоў былі наваленыя кучамі нязьлічоныя томы „ін фоліё", „ін кварто", „ін актаво" ў пачарнелых скураных пераплётах. Ішлі мы па рэдкіх драўляных памостах, пад якімі хлёпала вада, а ў паветры стаяў пах гнілі й сьмерці. Я ламаў сабе галаву, намагаючыся зразумець, чаму гэтыя рэдкія й найрадзейшыя кнігі — у мяне было ўжо зыркае вока — зьберагаюцца ў такім неадпаведным месцы. Мы йшлі падваламі ў чародны рэйс, калі Люблінскі, што йшоў сьпераду, зрабіў дзіўны, амаль акрабатычны скок назад і, упаўшы на калені, пачаў разглядаць цяжкую дубовую дошку, закрываўшую прагал між сасновымі кладкамі. Мы абое ступалі на гэтую дошку ўжо некалькі раз, у ёй нічога прывабнага ня было, але Люблінскі раптам апусьціў свае беласьнежныя накрахмаленыя манжэты ў гэту чорную, сьмярдзючую ваду, падняў дошку й я пачуў здушаны стогн, амаль плач.

— Што сталася? — спытаўся я.

Люблінскі павярнуўся ка мне, трымаючы перад сабой дошку, вада

**(Заканчэньне на 6-ай бачыне)**

